Ніва

ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 35 (1529) ГОД XXX БЕЛАСТОК 1 ВЕРАСНЯ 1985 г. ЦАНА 10 зл.

# СЕЛЯНІН —ПАЭТ

Паміж рэчкамі Нараў і Нараўка, на паўночным узбярэжны Белавежскай пушчы, раскінуты беларускія вёскі і хутары. Сярод лясоў маляўнічыя краявіды палёў і лугоў. У адным з такіх месц на хутары вёскі Тарнопаль 7 верасня 1941 года нарадзіўся Уладзімір Гайдук. Так што яго першыя гады жыцця „апаленыя“ былі вайной. Па вайне сяляне адбудоўвалі свае сялібы ў родным куточку. Ставілі скромныя хаты, гаспадарчыя будынкі і пачыналі новае жыццё. Не было тут электрычнага святла, асфальтаваных дарог і сельскагаспадарчых машын, але тут была свая зямелька з цудоўнай, жыццедайнай прыродай. Людзі дапамагалі адзін другому, а ў святочныя дні і вечарамі збіраліся пагаварыць, паспяваць. У такім асяроддзі рос Валодзя. Любіў слухаць народныя казкі, легенды і песні. Прасякаў беларускай народнай культурай. Уважна наглядаў за сялянскім жыццём, пазнаваў свет, вучыўся добрасумленнай працы. Штодзённа быў на ўзлонні прыроды, адкрываў яе таямніцы. Яму красавалі кветкі і спявалі птушкі. Ля хаты шумелі бярозы-прыгажуні і стройныя яліны. З род-

(Працяг на стар. 4)



На гэтым пяньку, сярод групы елак, якія абступаюць невялікую палянку ля самай Валодзевай хаты, находзіць на яго натхненне. Сам Валодзя называе палянку сваёй святыняй, куды ходзіць „маліцца“.

# ЗНОЎ У ШКОЛУ

Залаты верасень, з пахам даспелых яблыкаў, з цяжкімі набрынялымі гронкамі рабіны, з гародамі, заваленымі ўсялякім пахучым і смакавітым зяленівам, вітае нас на парозе школы.

Час брацца за кніжкі, час сустрэцца з сябрамі, час пачынаць будзённую карпатлівую працу і вучобу. За лета кожны з нас узбагаціўся новымі ўражаннямі, прыбыло нашым мускулам сілы і загару на твары, хоць сонца і не надта песціла нас сёлета. Час вяртацца да будзённых заняткаў, да старых і новых спраў, якія ставіць перад намі жыццё.

Пачынаем чарговы навучальны год. Не абыдзецца, напэўна, як штогод, без розных клопатаў: чагосьці яшчэ не хапае, там-сям не закончаны яшчэ рамонт, і давядзецца канчаць яго ў час заняткаў. Але працаваць трэба — і вучыць, і вучыцца. Ды і клопаты ўжо значна меншыя, чым у папярэднія гады.

Верым, што дырэктары школ і настаўнікі зробяць усё магчымае, а часам і немагчымае, каб дзеці мелі ўсе ўмовы для добрай, спакойнай вучобы — у чысціні, цяпле і накормленыя. Такія ўмовы ёсць ужо ва ўсіх нашых школах, хоць часам яшчэ і бывае цеснавата.

Маем таксама надзею, што ва ўсіх школах, дзе вучацца дзеці беларусаў, далей будзе навучацца беларуская мова.

Паважаныя дырэктары школ і настаўнікі беларускай мовы! Зрабіце ўсё, каб нашы дзеці і сёлета маглі вывучаць сваю родную мову. Не пашкадуйце сіл, каб беларуская мова стала ў вашай школе цікавым і важным прадметам. Не пашкадуйце месца на стварэнне беларускага кабінета, дзе можна было б збіраць і перахоўваць прадметы народнага вырабу і мастацтва, узбагаціце новымі кніжкамі беларускі куточак у вашай школьнай бібліятэчцы, папоўніце новымі творамі праграму вашага школьнага мастацкага калектыву.

Вельмі было б нам прыемна, калі б наша газета была заўсёды на партах у вашай школе, калі б яна была прыдатнай настаўнікам і дзецям у штодзённай працы. „Зорка“ можа ўзбагаціць школьную лектуру на беларускай мове, часам падкажа, чым цікавым можна яшчэ заняцца, запрапануе верш ці песню на школьную ўрачыстасць. Не забудзьцеся толькі, што яе як найхутчэй трэба выпісаць, каб яна сама траплялa круглы год у вашы рукі.

„Ніва“ таксама хацела б быць вашым памочнікам ва ўсіх турбуючых вас справах. Таму запрашаем усіх пісаць да нас, дзяліцца сваімі радасцямі, клопатамі і сумненнямі. Будзем уключацца ў вашы справы, рэагаваць на патрэбы.

Жадаем усім вучням і настаўнікам добрай, арганізаванай і паспяховай працы. Жадаем настаўнікам у новым навучальным годзе добрых, старанных і ахвотных да ведаў вучняў, а вучням — добрых настаўнікаў і адных пяцёрак.

**Яніна Чэрнякевіч**

# СУСТРЭЧА З ЯНАМ ДАБРАЧЫНСКІМ

У памяшканні аддзела Беларускага таварыства ў Бельску 7 жніўня г.г. адбылася сустрэча Прэзідыума Галоўнага праўлення БГКТ са старшынёй Краёвай рады Патрыятычнага руху нацыянальнага адраджэння (ПРОН) Янам Дабрачынскім.

У ёй прынялі ўдзел: першы сакратар Ваяводскага камітэта ПАРП у Беластоку Уладзімір Каладзеюк, старшыня і намеснік ваяводскай рады ПРОН Пётр Борань і Вальдэмар Паўлоўскі, беластоцкі ваявода Казімеж Дунай, кіраўнік Раённага камітэта партыйнай працы ПАРП у Бельску Ляонцій Парафенюк, начальнік горада Бельска Ян Садоўскі і старшыня гарадской рады ПРОН Ян Ваўжыняк.

Старшыня ГП БГКТ Аляксандр Баршчэўскі, сардэчна прывітаўшы прадстаўнікоў улад, расказаў аб дасягненнях, праблемах, некаторых цяжкасцях і нявырашаных пытаннях нашай арганізацыі і яе інтэгруючай ролі ў беларускім асяроддзі і падкрэсліў удзел БГКТ у выбарчай кампаніі ў Сейм, у якім павінна быць і належнае прадстаўніцтва беларусаў. Успомніў аб тым, што беларусы ў значнай меры прычыніліся да станаўлення і ўмацавання маладой народнай улады на Беласточчыне, мноства іх загінула ў II сусветнай вайне і што ў 1980-81 гадах таксама беларусы не пайшлі за „Салідарнасцю“, а абаранялі пазіцыі сацыялізму ў нашай краіне.

Затым выступіў прафесар Пётр Борань, які падкрэсліў шматзначны, заангажаваны ўдзел беларусаў у працах ПРОНу і яго паасобных кіруючых органах і, між іншым, сцвердзіў, што беларусы на рознага роду форумах ПРОН вельмі мала альбо далёка недастаткова выказваюцца аб праблемах, якія хвалююць беларусаў, у тым і аб БГКТ. Яны слаба ўздзейнічаюць на культурную палітыку і зусім не дапамінаюцца вырашэння тых ці іншых сваіх нацыянальных спраў.

— Хачу заахвоціць членаў вашай арганізацыі да большага ўздзеяння на кірунку культурнай дзейнасці ў рамках ПРОН, які мае вялікі ўплыў на ўсе дзялянкі жыцця, — звярнуўся ён да членаў Прэзідыума ГП БГКТ.

Янка Зенюк і Аляксандр Іванюк гаварылі аб слабой матэрыяльнай базе беларускага школьніцтва і аб патрэбе пабудовы супольнага памяшкання для пачатковай школы і агульнаадукацыйнага ліцэя ў Гайнаўцы, у якіх навучалася б беларуская мова, а таксама і аб пабудове Музея помнікаў беларускай культуры і рэвалюцыйнага руху. Гэтую тэму закрануў таксама Кастусь Майсеня.

Аляксей Карпюк запрасіў Яна Дабрачынскага ў зручны для яго час наведаць беларускі ліцэй у Бельску, які на працягу апош-

(Працяг на стар. 2)

# БЕЛАВЕЖА

СТАРОНКА ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ ПРЫ ГП БГКТ № 316


## ДАРОГА ДАМОЎ

Схаваўся ў хмарах купал
зорны,
Відаць у водбліскаx зарніц,
Што неба, як кацёл агромны,
Клубамі чорнымі кіпіць.

Завеса тоўстая, як з воўны,
Найшла на цэлы небасхіл,
Плыве стагамі хваль бязмоўных
З запасам поўным свежых сіл.

Закрыла цемра ўсё навокал,
Так што не бачу ўжо кустоў.
Іду ўсляпую вольным крокам
Шашой са станцыі дамоў.

Ды вось заззялі бліскавіцы,
Дрыжыць паветра ад грамоў,
У бляску пазнаю граніцы
Маёй дарогі між палёў.

Падняўся вецер, як шалёны,
І сыпле ў вочы мне пясок,
Гудзіць і вые, ў вушы звоніць
Шматлікім хорам галасоў.

Грукочуць громы, вецер свішча,
Рагоча рэха ў бляску стрэл,
Як д'яблы ў пекле, дзесь
на дніішчы,
Танцуюць сотні тарантэл.

Гляджу: самотная бяроза, —
На паўдарогі ад сяла —
Дрыжыць лісцём, раняе слёзы,
Хоць безліч бур перажыла.

І раптам лівень лінуў з неба,
Упаў, як злосны водны вал,
Іскрацца ручаі на глебе,
А ля шашы паўстаў канал.

Вада ляціць мне за сарочку
І залівае вочы, рот,
Цячэ мне ў боты, як у бочку,
І б'е фантанам кожны крок.

Ды я бягу па гладзі слізкай,
Не страшны дождж, не
страшны гром
І хоць бы што маланак бліскі,
Імчу хутчэй у родны дом.

Вось вёска з сонцамі у вокнах,
На брук зыходжу я з шашы,
І сам адзін бягу і мокну —
Нідзе не відна ні душы.

Ды паказаўся дом мой родны,
Заве мяне сваім святлом.
Хоць ён стары, хоць ён
не модны,
Люблю яго. Спяшу ў свой дом.

**Д. Шатыловіч**

## ПАРАЛЕЛІ

Паралелі, паралелі...
З круглых дарог-шляхоў
Ледзь вярнуцца мы паспелі,
Хоць зусім не без грахоў.

Не шукалі зорнай сцежкі,
Жвір таптал на зямлі.
Дым душылі з галавешкі,
Рукі ў попеле пяклі.

Зачынялі дзень у хату,
Цень схаваўшы пад палой.
Каб назойлівы пачатак
Больш у сэрца не калоў.

Заплятал з думак сіта
Па абочынах дрыгвы.
Дзён шукалі перажытых,
Дзён у памяці жывых.

Заглядалі праўдзе ў вочы,
Шапкі скінуўшы з галоў.
З горкай чаркай да паўночы
Дарагіх шукалі слоў.

**Л. Танкевіч**

* * *

Н.А.

Сястра мая
Чырвоных макаў
Не кінем больш на разыходныя дарогі
О не
Мы дачакаем
Белай карозды летуценняў
Сініх пралесак — зорак весніх
У лотаці убачым кнігавак рыданне
У касачах пакінем заклінанні
Лянок зязюльчын гэта толькі мроя
Прытуляць нас бярозы як матулі
Ёсць на кары маршчыны рук і твару
Шопат лістоў у воблаках туману
Было прайшло
Астаўся боль кахання
Гусі-лебедзі пакінуць нам пяро
Вясна парадуе змаганнем
А мы ў траве
Па пояс і па грудзі
Заўсёды з небам
І навек з зямлёй
Адзінокія бадзягі метафары дзівоснай

А розум як ікона
Пакажа жытні колас
У спеласці заўважым праміннанне
Ртуць верасоў працвіўшых
Мы аптымізму песімісты
Маўчым крыкам адчаю
Сястра мая
Чырвоных макаў
Не кінем больш на разыходныя дарогі ...
. . . . . . . . . . . . . . . .
Чаму ты болей не спяваеш
Ой люлі люлі

**Уладзімір Гайдук**
12.03.1985 г.

### ПАМЯТАЙ ВЁСКУ РАЙСК

Са мною стань,
Прыпомні дзень,
Прыпомні крык,
Прыпомні смерць,
Прыпомні страх,
Прыпомні плач,
Агонь і дым,
Дзяцей, старых —
Паклон ім дай!
З раянкай сядзь
І папытай,
І папрасі —
Раскажа хай
Пра жах і смерць,
Хай пра вайну
Раскажа нам.

**Люся Анхім**



Мал. Мікалая Давідзюка.

З балгарскага цыкла

### ЛЯ ПОМНІКА МІЦКЕВІЧУ

Стаіць у Бургасе Міцкевіч,
У бронзе, ў паркавай алеі.
Шумяць над ім заўсёды дрэвы,
Праходзяць розныя падзеі.

Тут жыў калісьці поўны болю,
Аб вызваленні Польшчы марыў,
Жадаў, каб атрымалі волю
Яго гасцінныя балгары.

Шум хваль марскіх калыша штодзень
Паэта ў творчым задуменні.
Ён быццам цешыцца — ў свабодзе
Жывуць славянаў пакаленні.

Жыве у памяці народаў
Паэт натхнёны і вялікі.
Прыносяць тут яму заўсёды
Бела-чырвоныя гваздзікі.

**Віктар Швед**

## АЎТОБУС І МАЛІНЫ

Надумаліся мы ўрэшце паехаць у Вострава. А было над чым задумоўвацца, бо як потым аказалася, у аўтобусе аж кішэла ад народу і ўсю дарогу прастаялі мы на сваіх дваіх. Адразу ж ад таго сціску зрабілася мне неяк душна, але ці ж дадуць адчыніць акно? Зараз залямантуюць бабулькі ды дзедкі, што цуг што вушы правее... А запхнулі нас у самы хвост, у найбольш задымленае месца. Шафёр, вядома, адчыніў сабе акенца і яму хоць бы што, а ты тут нюхай да ўпаду!

Што праўда, ехаць спераду калі б здарыўся нейкі выпадак таксама небяспечна, ды гэта мала праўдападобнае.

Тымчасам тыя, што паўсядаліся, задрамалі ўжо ды й захраплі, ім як быццам ноч, а нам дзянёк яшчэ. Нібы мы інакшыя людзі, ці што?

Шафёр уключыў радыё. Ішоў якісьці шматсерыйны крымінал, і я мог даведацца аж занадта цікавых рэчаў, прыкладна пра тое, што „Сміс быў сягоння знерваваны, адчыніў акно..." і гэтак далей. Словам штосьці дзеля так званага „забівання часу". Забіваюць той час, забіваюць, а потым енчаць, што нібыта якое гэта жыццё кароткае, свайго роду самагубцы...

Я прабаваў не слухаць гэтага, але Смісава знерванаванасць пераходзіла і на мяне. Пасля пачаліся песні і меў я нагоду паслухаць вельмі разумны сказ: „Дай мне яблык" (10 разоў), або „сіняга колеру" (15 разоў). Пасажырам нельга іграць, спяваць і ўключаць радыё, але шафёра гэта не датычыць. Зрэшты, найбольш залежыць ад яго і таму я вельмі збянтэжыўся ўбачыўшы, як ён, седзячы за рулём, смокча з сябрам гарэліцу.

Ды што ты зробіш? Спрабуй скажы яму, што ён п'яны — розуму й цвярозасці кожнаму хапае. І не праганеш яго — ушчаперыцца за руль і яшчэ чаго добрага на дрэве апынімся. Тады не заставалася нічога іншага, толькі ехаць з п'яніцай на чале ды перасунуцца далей, у ваколіцы нездаровыя, але беспячнейшыя.

Выцягнуў я даўгапіс, каб зрабіць занатоўку ў дзённіку. Абмацалі мяне недаверлівыя пагляды седзячых. Хоць і дрэмлюць, ды воч не заплюшчваюць. Быццам бы ты хочаш абцерабіць іх або скінуць з седала...

Потым валакліся надта доўга, бо не маглі апярэдзіць аднае машыны з такой жоўтай мільготкаю на даху.

Урэшце падумалася, што мо мне толькі здаецца, што немагчыма дыхаць свежым паветрам у аўтобусе. Хутка выцягнуў я руку, пацягнуў — не адчыняецца, другое — адсунулася на пару сантыметраў. Ну, аднак! Глыбей дыхнуў, абвёў позіркам лясы за шыбамі. Ды тут жа глянуў я зноў — а акенца ўжо зачынена... Усе дрэмлюць, быццам нічога... І мяне стала хіліць на сон...

Ах, тыя аўтобусы ў Клін! Пэ маліны прэ гэтак народ, па маліны!

**Яраслаў Яновіч**




## МАРА ПРА ВЫКАРЫСТАННЕ ШАНЦАЎ

Як і большасць чытачоў „Нівы", я вельмі цаню публікацыі Алеся Барскага, лічу іх не толькі важнымі, але і неабходнымі. А ўсё ж не магу скрываць, што ёсць у тых публікацыях нешта такое, што змушае чалавека да спрэчкі.

Што можа выклікаць такія пачуцці? Мне здаецца, што загадкі. Заключаюцца яны мабыць у тым, што кожная думка А. Барскага пакідае недасытнасць у закранутым пытанні, таму параджае цягу да новых пытанняў. Калі я чытаў „аб невядомых палякам беларусах", пачало мучыць мяне такое пытанне: чаму гэта тэма з'явілася ў „Ніве", а не ў польскім друку? Беларусы ж пра сябе і свае праблемы, бадай, усё ведаюць, а палякі з „Нівы" нічога не даведаюцца, бо яны ж не разумеюць беларускай мовы, а большасць з іх нават і пра існаванне „Нівы" (як і саміх беларусаў у Польшчы) ніколі не чула.

Папракае Барскі тых беларусаў, якія, будучы настаўнікамі, войтамі, сакратарамі партыйных арганізацый, нават пасламі (гэта ўжо ў артыкуле „аб нявыкарыстаных шанцах"), не спакусіліся пайсці следам Тарашкевіча і не выступаюць з адкрытай дзейнасцю на карысць беларускага асяроддзя ў Польшчы. І зноў хочацца запытацца: чаму А. Барскі намагаецца параўноўваць сённяшніх паслоў з Тарашкевічам? Браніслаў Тарашкевіч быў паслом у Сейм ад імя беларускага насельніцтва — узначальваў нават беларускую парламенцкую фракцыю Сейма. Беларусам жа, прадстаўнікам сучасных улад Польшчы, ніхто не прадугледзеў права выступаць ад імя беларусаў як асобнай, хаця і раўнапраўнай, нацыі. Таму калі б пасол з Беласточчыны, абавязак якога клапаціцца аб справах усіх грамадзян, сваіх выбаршчыкаў, выступіў у Сейме, як прапануе А. Барскі, са словамі: „Мы, беларусы, свабодныя грамадзяне ПНР, павінны заўсёды дзейнічаць у напрамку развіцця беларускай мовы і культуры", нельга было б здзіўляцца, што яго новым Тарашкевічам не назвалі б. Проста таму, што сесій, прысвечаных беларусам, дагэтуль не бывала.

Алесь Барскі даказвае, што народная ўлада стварае роўныя магчымасці і шанцы для ўсіх нацыянальнасцей і рэгіёнаў. Над гэтым сказам варта было б крыху затрымацца. Не думаю аспрэчваць таго, што меншасцям гарантуе канстытуцыя. Аднак, калі ўжо гаворым пра шанцы, то неабходна ўзяць пад увагу і ўсе фактары, якія вырашаюць аб магчымасці развіцця паасобных нацый. На гэту тэму і прафесар Ежы Тамашэўскі ўжо выказваўся ў артыкуле „Kłopoty z mniejszościami" (Polityka, 16.III.85), звяртаючы ўвагу, што „ніхто ў істотных маштабах не змагаецца супраць усялякіх узаемных нянавісцяў, якія так

(Працяг на стар. 7)





Валодзя-гаспадар выязджае са свайго падворка. Час забраць сухую пахучую атаву.

# СЕЛЯНІН—ПАЭТ

(Працяг са стар. 1)

най глебы чэрпаў сілы і „з балотных тарфяных крынічак піў натхненне..."

„А ці песні ў якой краіне
Так звіняць, як у нас,
не ўяўлю.
З зяленню лясоў і з небам
сінім
Я ўрос у родную зямлю".
(„Родная краіна")

Вершы пачаў пісаць ужо ў пачатковай школе. Вучыўся вельмі добра. Потым паступіў вучыцца ў Беларускі ліцэй у Бельску. Вершы яго пачалі друкавацца ў „Ніве". Быў удзельнікам першага семінара беларускіх літаратараў у Польшчы, што праходзіў у чэрвені 1958 года. Пяць яго вершаў увайшло ў зборнік „Рунь" (першы паэтычны зборнік на Беласточчыне). Многія знаўцы паэзіі заўважылі талент маладога паэта. Аднак Уладзімір Гайдук не быў „ласы на славу паэта".

„Ох, як хацелася мне жыць
У той краіне, дзе радзіўся,
І басяком ісці, ісці
Да роднай мовы жывых
існін"
(„Кліч душы")

Вярнуўся на гаспадарку, быў адзіным сынам у бацькоў. Моцна палюбіў свой родны кут і астаўся яму верным на ўсё жыццё. Ён селянін, а яго „верным другам — паэзія — душы гарэнне". Тая самая рука, што сыпала зерне ў раллю, складала думкі ў вершы на паперу, „быццам кветкі ў вянок". Жыццё не паскупіла для яго цяжкіх выпрабаванняў. Давялося перажыць смерць найбліжэйшых сэрцу людзей. Бацькі памерлі проста на яго вачах. Стала тады:

„І пуста ў хаце, пуста
ў сэрцы, пуста ў полі
І пуста сярод людзей"

„Перастаў я было пісаць
вершы
І на волас чуць сам не
загінуў", —

шчыра прызнаецца паэт, але...

„Ціхі шопат сіроцкай
бярозы
Зноў вярнуў на роднае
поле".

На жаль, часта людзі не бачаць болю аднаго чалавека, абыходзяць яго, а некаторыя нат хочуць скарыстаць з чужой бяды.

„Не так проста падзяліцца
і дабром, і злом,
Не так проста адшукаць
сяброў сардэчных
Не так проста не паверыць
у свой лёс,
Калі гора гарой зваліцца
на плечы".
(„Не так проста")

Тады застаецца самому змагацца за сябе, а нават за сваё жыццё.

„Страціў козыр, апошняю
картай
Бараніў чалавечае званне".

Уладзімір Гайдук абараніў сваё званне: „быць справядлівым і сумленным, быць чэсным, шанаваць людзей". Ён як селянін добра гаспадарыць. На полі красуе збожжа і бульба. Збірае многа сена. Гадуе чатыры каровы і іншую хатнюю жывёлу. Пабудаваў вялікі, прыгожы, цагляны дом. І ўсяго гэтага дасягнуў, жывучы адзінока. Ён як паэт — „даражыць рыфмаваным словам". Яго паэзія характэрная глыбінёй і шчырасцю пачуццяў, багаццем мастацкіх сродкаў. Верная роднай зямлі, свайму народу, а таксама ідэі гуманізму. Вершы Уладзіміра Гайдука з'яўляюцца каштоўным здабыткам беларускай творчасці ў нашай краіне. Яны выплываюць проста з сэрца аўтара і ўліваюцца проста ў душу чытача, напаўняючы яе самымі цёплымі пачуццямі. Захапляюць выразнасцю вобразаў нашай зямлі, плёнам сялянскай працы, красой прыроды і светлымі думкамі аб жыцці.

Уладзімір Гайдук — аўтар аднаго зборнічка паэзіі „Ракіта". Яго вершы друкаваліся ў „Ніве", у „Беларускіх календарах" у школьных падручніках, а таксама ў іншых выданнях. Падрыхтаваў новы зборнік вершаў пад загалоўкам „Блакітны вырай", у якім пацвярдзіў далейшы рост свайго майстэрства. Аднак чамусьці гэты зборнік „зімуе" дзесь ужо некалькі гадоў. Творчасць Уладзіміра Гайдука заслугоўвае на тое, каб яе „пускаць" у людзі, тым больш, што напісана сваім жыццём, сваёй душой.

Уладзімір Гайдук — селянін-паэт, але перш за ўсё сардэчны, добры чалавек. Знаёмства з ім выклікае пашану да яго духоўнага багацця, да глыбокіх яго пачуццяў. Адчуваецца ў ім простая сялянская культура, скромнасць і адначасова чалавечая годнасць.

**В. Хрысцінін**

Фота Я. Чэрнякевіч

ШЛЯХАМ ГАДОЎ

# СПРОБЫ АДБУДАВАЦЬ ІМПЕРЫЮ

Поўны развал створанага Раманам Мсціслававічам аграмаднага Галіцка-Валынскага княства і раздзел яго паміж самымі заядлымі ворагамі гэтага запальчывага, ваяўнічага і надта ж жорсткага князя не толькі не прынесла спакою, але акунула землі ад Панямоння на поўначы да Паднястроўя на поўдні ў бясконцыя войны. Ад часу смерці Рамана ў 1205 годзе і аж амаль да нашэсця татара-манголаў у 1240 годзе кароль вянгерскі, князі кракаўскі і кіеўскі, чарнігаўскі і пінскі, белзскі, северскі і цэлая плойма князькоў балахоўскіх ды незлічоныя орды полаўцаў, якіх бралі сабе ў дапамогу ваюючыя канкурэнты за Раманаву спадчыну, бясконца здабывалі і здавалі крэпасці, рабавалі і палілі рамесніцкія і гандлёвыя прадмесці, зніштажалі сёлы і бясконцымі натоўпамі выводзілі насельніцтва або ў свае ўладанні, або на продаж у гарады чарнаморскага і балтыйскага пабярэжжаў ды ў чэшскую Прагу; яна ў тыя часы была адным з найбольшых рынкаў гандлю нявольнікамі, якія паходзілі пераважна з Усходняй Славяншчыны.

У гэтай узаемнай грызні ды выдзіранні адзін другому захопленага, таксама князь белзскі Аляксандр Усеваладавіч страціў не толькі ўсю надзею на стварэнне ўласнай моцнае дзяржавы, але і з Уладзіміра мусіў уцякаць у свой родны Белз, за захаванне якога пры сабе давялося яму не мала падрыжэць ды паваяваць. Доўгі час асірацелыя сыны Рамана, малалетнія Даніла і Васілька, і іхняя маці-ўдава былі бязвольнай забаўкай ў захопніцкіх розыгрышах перадзельшчыкаў спадчыны па Рамане Мсціслававічу, жылі на іх ласцы, пераходзілі з рук у рукі, служылі прыкрыццём для захопнікаў. Толькі недзе каля 1215 года Раманавічы неяк уладкаваліся больш трывала ў колішняй бацькаўшчыне — княстве Уладзімірскім — страшэнна выселеным, абрабаваным ды абкусаным тэрытарыяльна.

Разам з узростам узмацняліся ў Раманавічаў імкненні адбудаваць бацькаву імперыю. А пачалі гэтае кровапралітнае і працяглае змаганне з вайны супраць свайго былога апекуна і прыяцеля, князя кракаўскага Лешка Белага, ад якога каля 1218 года адбілі Сярэдняе Пабужжа з гарадамі Бярэсцем, Угроўскам, Вярэшчынам, Стаўпом і Комавам „і ўсёй ускраінай". Аднак у гэтую „ўскраіну" не ўваходзіла ні Дарагічынскае княства, ні Панароўе, бо калі летапісец успомніў такія маленечкія крэпасці як Вярэшчын ці Стоўп, дык напэўна не абмінуў бы напісаць пра Дарагічын.

Вядома, гэта не прыйшлося да спадобы кракаўскаму князю і, як заўважае летапіс: „Лестько же велик гнев имея на Данилу. Весне же бывши и ехаша ляхове воевать, и воеваша по Бугу". Хоць войска Раманавічаў насцігла іх і „колодники изымаша" (адбіла палон — М.Г.) ды

# МАЕ ЎРАЖАННІ З МІНСКА

Як штогод, група 20 настаўнікаў беларускай мовы апынулася 2 ліпеня 1985 г. у Мінску. Прыехалі мы на слаўныя курсы беларускай мовы, наладжаныя нашым Міністэрствам асветы з мэтай павышэння ведаў. Кіраўніком нашай групы быў мгр Аляксей Карпюк — дырэктар Беларускага ліцэя імя Б. Тарашкевіча ў Бельску.

У Мінск заехалі мы хмурнай аўторкавай раніцай. Сустрэлі нас на вакзале шматгадовыя апекуны Яўген Адамовіч і пані Святлана. Гэта цудоўныя людзі. Яны пастараліся, каб пабыўка наша ў Мінску прынесла як найбольш карысці, каб здабылі мы многа ведаў і пазналі беларускую сталіцу.

Першы дзень мы адпачывалі з дарогі. А 3 ліпеня пачаліся заняткі, хоць Мінск быў якраз святочны, цудоўны з нагоды гадавіны вызвалення.

Амаль месяц мы слухалі даклады па гісторыі і палітыцы партыі, методыцы навучання беларускай мовы, беларускай сучаснай літаратуры, граматыцы, арфаэпіі, гісторыі Беларусі, дзіцячай літаратуры, дыялекталогіі і спеву. Мы паўтаралі і набывалі новыя веды, вельмі прыдатныя ў навучанні дзяцей. Усе выкладчыкі стараліся даць нам як найбольш гэтых ведаў. Больш аднак увагі хачу прысвяціць уражанням, вынесеным са спаткання з беларускай сталіцай і яе людзьмі.

На самым пачатку нашай пабыўкі пані Святлана павезла ўсю групу паглядзець мінскае метро, якое знаходзіцца пад Ленінскім праспектам. Мы проста пераязджалі са станцыі на станцыю і аглядалі цудоўныя збудаванні. Яны ўсе з прыгожых каляровых мармураў, і кожная з іх — непаўторная. Мне асабіста найбольш падабалася станцыя Я. Коласа пад аднайменнай плошчай. Калоны на станцыі Коласа вельмі прыгожа аздоблены барэльефамі сцэн з твораў пісьменніка ў бежавакоўтай танацыі з цудоўнымі расліннымі матывамі.

Кожны дзень потым пасля заняткаў мы з нашай апякункай хадзілі ці ездзілі на экскурсіі па Мінску. Пабывалі ў двух музеях нашых песняроў — Якуба Коласа і Янкі Купалы. Былі ў музеі Вялікай Айчыннай вайны і ў музеі I З'езда партыі. Усюды там праваднікі раскрывалі нам старонкі з гісторыі нашага народа вельмі дакладна і на цудоўнай роднай мове.

Нашыя апекуны арганізавалі групе настаўнікаў тры экскурсіі па рэспубліцы. З'ездзілі мы на радзіму Якуба Коласа, у Акінчыцы, дзе наведалі хату, у якой нарадзіўся паэт, затым у Смольню, дзе знаходзіцца яго музей. Там, над Нёманам, быў незабыўны абед пад дубамі, прымочаны дажджом, і там мы мелі магчымасць слухаць маладога беларускага барда Сяргея Сокалева, які спяваў нам свае вершы, акампаніруючы на гітары. Гэта быў незабыўны канцэрт!

Па дарозе назад мы пабывалі ў Дзяржынску пад магутным помнікам інтэрнацыяналу-рэвалюцыянеру. Гэта было 11 ліпеня.

18 ліпеня — другая экскурсія, у Навагрудак. Па дарозе мы затрымаліся ў Міры, глядзелі рэстаўрацыю славутага замка. Побач — цудоўная капліца са слаўнай іконай Хрыста над уваходам. Шкада, што гэтакі помнік нашага дойлідства нішчыць час!

У Навагрудку — багата абсталяваны музей польскага пісьменніка А. Міцкевіча. Затым пабывалі мы на гары з руінамі замка старажытнага літоўскага князя Міндоўга з XIII стагоддзя. З замка засталіся рэшткі мураў на высокай крутой гары, з якой відаць увесь Навагрудак і цудоўныя ўзгоркі навагрудскай зямлі. На гары вядуцца якраз археалагічныя раскопкі.

Быў у нас і трэці выезд — адначасова на Курган Славы і ў Хатынь. Цяжка было глядзець у Хатыні на мора кветак, якія безупынна ставяць і кладуць людзі ў розных месцах гэтага комплексу. Цяжка было думаць пра тую страшную трагедыю чалавечага існавання, аб якой безупынна напамінаюць хатынскія званы!

Па дарозе ў Мінск сапсаваўся наш аўтобус, і мы папpавілі настрой, напасвіўшыся чорнымі ягадамі ў прыдарожным лесе.

А цяпер пра спатканні. Неяк найбольш мне запомніліся спат-

(Працяг на стар. 8)



Нашы настаўнікі на фоне Педагагічнага інстытута ў Мінску.

„ляхы же многи избиша и гнаша по них до реки Вепря“, аднак Лешка Белы пакараў маладых князёў уладзімірскіх надта ж сурова: наогул прагнаў іх з бацькаўшчыны ў стэп, на Паднястроўе, дзе яны доўга валэндаліся „ў вялікім голадзе“ і, быццам грабежнікі, нападалі на купецкія абозы і лодкі. Відаць, пад уражаннем гэтага разгрому і ўпаду сыноў іх маці, удава Раманава прыняла манашаскі пострыг.

Каля 1219 г. старэйшы Раманавіч жэніцца. Гэтай жаніцьбой на дачцы князя Мсціслава Удалога, які ў той час заўладаў Галічам, Даніла імкнуўся забяспечыць сабе падтрымку і дапамогу з боку ваяўнічага цесця.

Не атрымаўшы спадзяванай падтрымкі з боку Мсціслава Удалога і апынуўшыся ў трагічным палажэнні, Раманавічы звярнуліся за дапамогай да сваіх паўночных суседзяў — князёў жамойдскіх, аўкштоцкіх, дзевялтоўскіх і іншых — і заключылі з імі мірнае пагадненне, у выніку якога яны здолелі накіраваць супраць Польшчы шматлікія атрады літоўцаў і іхніх саюзнікаў. І праўда, неўзабаве тыя напалі на Польшчу і „много убийства створаша“. Такім чынам Раманавічам удалося вярнуцца ва Уладзімір і замацавацца ў ім. Але не за дзякуй! З усяго відаць, што яны зракліся на карысць „паўночнага саюза“ (г.зн. Жамойціі, Аўкштоты, Гарадзеншчыны, Навагарадчыны і суседніх з імі зямель) сваіх дамаганняў на землі Дарагічынскага, Гарадзенскага, Навагарадскага і паўночнай часці Берасцейскага княстваў, словам — да ўсяе Чорнае Русі, якая раней уваходзіла ва ўладанні іхняга бацькі.

Што ж, цана была надта ж высокая, але, мабыць, Раманавічы мусілі яе заплаціць, каб утрымацца на сваёй бацькаўшчыне і забяспечыцца ад вельмі небяспечнага праціўніка. Тым болей, што адносіны паміж зяцем і цесцем, г.зн. Данілам Раманавічам і Мсціславам Удалым са скрытай непрыязні перарадзіліся ў адкрытую варожасць, якую павялічваў сваімі падбухторваннямі аднаго супраць другога Аляксандр, князь белзскі. І не дзіва: ён таксама змагаўся за ўтрыманне пры сабе свае бацькаўшчыны, маленечкага княства Белзскага, якое магло захоўваць самастойнасць толькі балансуючы паміж варагуючымі з сабою уладзімірскім, галіцкім і кракаўскім князямі.

У такой міжусобнай калатні і застала Усходнюю Славяншчыну першае з'яўленне каля яе ўсходніх граніц татара-манголаў. Аб'яднаныя сілы амаль усіх удзельных княстваў і полаўцаў у маі 1223 года на рацэ Калцы ўдарылі на невядомага ворага і „быў пагром на ўсіх князёў рускіх, як ніколі не бывала“ — чытаем у летапісе. Шмат з іх загінула на полі бою, а тых, якія трапілі ў няволю пераможцы паклалі покатам, прыціснулі бярвеннем, селі на гэтым жывым памосце спраўляць гучную трапезу і ніхто з пакладзеных не выйшаў жывым. Мізэрная рэштка недабіткаў уцёкамі з поля бітвы ўратавала сабе жыццё.

Гэтая пагрозлівая перасцярога нічому не навучыла князёў: як толькі акрыялі яны ад па-

(Працяг на стар. 6)




## ПЕЎНЯ ЗА ЯЙКА

Я, як заўсёды, дурань, прызнаўся жонцы ў тым, што даведаўся ў рэдакцыі. А даведаўся я, што яйкі адмоўна ўздзейнічаюць на хваробу, якая склерозам завецца. Жонка паслухала і адразу вывад з гэтага зрабіла: пачала інтэнсіўна карміць мяне яйкамі. На снеданне вараныя, на абед смажаныя, а на вячэру когель-могель. Усё для таго, каб выйшаў і не вярнуўся. Дабілася такога рэзультату, што хоць публікуй у навуковай літаратуры. Калі яшчэ пару гадоў таму назад я цэлымі тыднямі не памятаў, што ў мяне ёсць жонка, то цяпер яна кожны дзень перад маімі вачамі. О, напрыклад, учора! А мо гэта пазаўчора, або яшчэ даўней? Але хіба сёння — пасля кожнай паўгадзіны адпачынку на папяросу, зноў дабіраўся да яе, як нейкі малойчык. Спярша вельмі цешылася маімі дасягненнямі, але пад вечар дапіла рэшту кавы, абула туфлі...

— Куды ты йдзеш? — спытаў я са здзіўленнем. — То ж набліжаецца вечар?

— Вось іменна, — адказала жонка, — набліжаецца вечар і я павінна быць дома. Там муж чакае.

Пацалавала мяне горача, і толькі я яе бачыў.

„Божа, — падумаў я, — што яна мела на думцы, гаворачы, што мусіць быць дома?“ Але чаго жанчына не выдумае — махнуў рукой і ўключыў тэлевізар. Аглядаю сабе цырк, бадай цырк, бо Ганна і Антоні Гуцвінскія кракадзіла ды папугаяў паказвалі. Аж тут званок у пярэднім пакоі як засвішча!

— Каго там зноў прынясло ліха, ідзі адчыні, бо аглохну! — крычу ў другі пакой, дзе паводле мяне павінна быць мая старая, а сам баюся, што кракадзіл нырне ў ваду і больш яго не ўбачу. Але жонка з пакою не выходзіць, а званок усё даўжэй і зласней свішча. Адчыняю дзверы...

— Божа, адкуль ты ўзялася ў гарсонцы і з парасонам, ты ж толькі што выбегла ў адной сукенцы?! І наогул, куды ты выходзіла?

— Што ты пляцеш, стары склеротык, ты ж добра ведаеш, што я сёння рана паехала ў Міхалова да сястры, каб табе пчалінага кіту дастаць.

— Якога кіту, што ты гаворыш?! То ж не далей, як паўгадзіны таму называла ты мяне Дон Жуанам і цалавала, як ашалелая!

— Што? Паўгадзіны таму то я ехала, а да цалавання то ты ўжо не надаешся пяць год!

Госпадзі, чаго тая жанчына ад мяне хоча? — задумаўся я. — Цэлы дзень у пяшчотах, аж да сёмага поту, а ёй яшчэ мала?

— Даражэнькая мая, а ў колькі паехала ты ў Міхалова? Пры тым, чаму паехала ў сукенцы, а прыехала ў гарсонцы? Што, у сястры трымаеш вопратку, каб муж не прапіў?!

— О, бачыце, знайшоўся муж, які гарэлку п'е, — заўважыла жонка іранічна і дадала, каб

(Працяг на стар. 11)

(Працяг са стар. 5)

## ШЛЯХАМ ГАДОЎ

грому, адразу зноў кінуліся ў міжусобную барацьбу, выдзіраючы сабе ўзаемна княствы, гарады, сёлы, рабуючы і зніштажаючы родны край. Затое з паражэння на Калцы зрабілі належныя вывады суседзі Усходняй Славяншчыны.

Першыя ўдарылі літоўцы: іхнія шматлікія атрады нападалі на ўсходнеславянскія землі амаль штогод — у 1224, 1225, 1226, 1229, 1234 гадах — і заглыбляліся ўсё далей і зніштажалі ўсё мацней. Праўда, якісьці час яны абміналі ўладанні Данілы і Васількі. Але, мабыць, не без пагаднення з літоўцамі, на Пабужжа і Валынь рушылі яцвягі. У 1227 годзе „повоеваша ятвязи около Берестия“ — паведамляе летапіс. І хоць Раманавічы разграмілі рабаўнікоў, але пагроза засталася такая вялікая, што нават ідучы ў 1229 годзе ў паход у Польшчу Даніла і Васілька пакінулі „в Берестии Володимера Пинского, и угровчаны (воі з горада Ураўска — М.Г.) и берестьяны стеречи земле от ятвязь“. Таксама і літоўцы ўжо не надта шанавалі падпісанае ў 1219 годзе з Раманавічамі пагадненне аб міры і ў тым жа 1229 годзе нападаюць на Берасцейшчыну.

Мабыць „паўночны саюз“ быў настолькі моцны, што Раманавічы не наважваліся пайсці супраць яго. Толькі пад 1237 годам знаходзім у летапісе заўвагу, што тае вясны яны рашылі пайсці „на ятвязе“ і падыйшлі да Бярэсця, але „Не возмогоста ити на ятвязе“ бо... рэкі навадніліся(!). Вядома: не рэкі былі страшныя, але „паўночнага саюза“ баяліся ваяўнічыя Раманавічы. І тады ж яны ўдарылі... на Дарагічын, які знаходзіўся ва ўладанні рыцараў-крыжаносцаў тэмплярыяў.

Крыху дзіўная справа. Рыцараў-тэмплярыяў „пасадзіў“ у Дарагічыне каля 1237 года і аддаў ім аграмадную тэрыторыю паміж рэкамі Нурцом і Бугам князь мазавецкі Конрад. За тое крыжакі абавязаліся ахоўваць Мазоўша і Малапольшчу ад нападаў літоўцаў і яцвягаў і пашыраць сярод іх хрысціянства. Здавалася б, што гэта было і на карысць князям валынскім, тым болей, што Конрад быў іхнім саюзнікам і прыяцелем нават, бо якраз яму толькі што Раманавічы дапамагалі ў паходзе на Кракаў. Значыць, здабываючы Дарагічын, яны ўдарылі па свайму саюзніку і яшчэ шырэй адкрылі вароты ў сваю зямлю для яцвяжскіх і літоўскіх нападаў. Але ў гэтым, відаць, найбольшае значэнне меў горкі вопыт, які перажывалі прусы, літоўцы, эсты ды палачане, пскавіцяне і іншыя ўсходнія славяне, што сутыкнуліся з крыжакамі і пачалі даваць адпор іхняму націску. Таму словы князя Данілы „Не лепо есть держати нашее отчизны крижевником“, якія аднатаваў летапісец, мелі глыбокі гістарычны сэнс. Дарагічын быў здабыты Раманавічамі, крыжакі нале з іх старэйшым Брунам узятыя ў палон.

**Мікола Гайдук**



**У Кленіках „на Ганну“. На гэтай лавачцы сядзела восем мужчын. Але чацвёра з іх, убачыўшы фотаапарат, уцяклі, бо „не пабрытыя і брудныя ад работы“.**

# „НА ГАННУ”

„На Ганну“ з самай раніцы дзень устаў прыгожы. Зямлю спавіла лёгкая прасветная імгліца. Але ані ў Беластоку, ані нават у Бельску ніякага свята не адчувалася. Пры ўездзе ў Бельск, затое, мы сустрэлі групу нямецкай моладзі, якая палола ружы, няполатыя хіба ад зімы. Я нават не вытрымала і да падышоўшага бельскага дзядзькі сказала: „Аж немцы мусілі прыехаць, каб апалоць вам ружы“. Нямецкая група папольску ні ў зуб, але гаварылі па-руску і мы з прымессю наспех успомненых нямецкіх слоў аб усім дагаварыліся вельмі добра.

*

Толькі ў Кленіках мы сустрэлі „Ганну“. Святочны настрой ва ўсёй вялікай вёсцы. На лавачках сядзяць людзі. Прыглядаюцца нам з цікаўнасцю і прыязнасцю. А мы шукаем чалавека, аб якім ведаем толькі, што „быў там, дзе Ісус Хрыстос жыў“. Так і пытаю ў дзяўчыны ў вясковым кіёску. Яна падумала, падумала і паказвае рукою на недалёкую хату, а падышоўшы мужчына пацвярджае, што фактычна там чалавек жыве і завецца Якімам. Але пакуль мы дайшлі да Якіма, пачалі падымаць з вуліцы спелыя, вялікія яблыкі каля хаты з нумарам 82. З двара выйшла гаспадыня і адразу сардэчна запрасіла на панадворак, дзе на зялёнай мураве ляжала многа яблык. Так адбылося наша знаёмства з Оляй Місеюк — цудоўным добрым чалавекам, Спадабалася нам яе хата, карункавай работы, з рознымі колісьнімі ўпрыгожаннямі. Оля сказала нам, што хату „пастроіў і ўкрасіў бацька Гаўрыла яшчэ да вайны“. Фатаграфуем хату і гаспадыню на ганку. Оля спахопліваецца: „босая“. Але супольна пераконваем яе, што добра, што яна босая, гэта цікава, бо ж яна так і працуе. Сонечныя зайчыкі весела скачуць на сценах хаты і ветліва задуменным твары маладой жанчыны. У Олі Місеюк тры дачкі: Ёля, Аня і Ірка. Дзве ўжо працуюць у Беластоку, а адна яшчэ вучыцца.

*

Хата чалавека, які „быў там, дзе Ісус Хрыстос жыў“, па-суседску, але застаем толькі жонку Надзю. Чалавек пайшоў „па бэткі“. Хата цікавая, адзін вялікі пакой — пахне старым добрым духам. Даўнейшая цагляная печ расселася ў кутку хаты. Маленькі запечак, завешаны каляровай заслонкай. А за комінам месца на печы — хоць гуляй: і спаць, і грэцца можна выгадна. Усюды вельмі чыста. Побач печы красуецца ложак з высока ўзнятымі падушкамі, засланы саматканай посцілкай. Тут жа нізенька, як бы чужая тут, версалька родам з нашай цяперашняй эпохі.

*

У зялёнай і зацішнай вёсцы Гародчына хвіліны праводзім на лавачцы ля хаты Пашкоўскіх — Анны і Міхала. Гэта дзед і баба Мішкі Шаховіча. І гаворым




# ФРАНТАВЫ ДЗЁННІК

16-II-45.

Паспаць не давялося. Вяртаюся з „экскурсіі”, а батарэя ўжо строіцца — камбат ледзь не падлавіў, што я кудысьці знік.

Недзе прарваліся немцы.

Праз хвіліну, абвешаныя соннымі артылерыстамі, нашыя кароткаствольныя імкліва ляцяць цераз пусты і змрочны горад. Толькі з -пад гумовых колаў страляюць пырскі ды ляскочуць жалезам перадкі. За горадам батарэя крута заварочвае цераз нейкія купіны і парожкі ў кусты.

Усю дарогу я ляжаў на лафеце, абдымаючы яго халодную сталь. Гармата, вядома, падскоквала і здорава набіла мне бараду, грудзі і калені. На мне няма жывога месца — усё баліць і ные.

Толькі саскочыўшы з лафета зразумеў: купіны — магілы, а парогі — нізкая агароджа з чыгуну. Мы — на могілках.

Гарматы закопваем умомант.

Дзе праціўнік? Чорт яго ведае. Спераду — страляюць. Ззаду заліваюцца кулямёты. Справа і злева — успышкі і выбухі. Чутно: сакавітая руская лаянка пераплятаецца з гартаннай — нямецкай. На долю секунды ўспышкі адсоўваюць цемру, але паспяваю разглядзець толькі чарнату глебы.

То праціўнік быў далёка, за сотню кіламетраў, то раптам...

Кучэрына няма. Камандзірам гармат няма ад каго даведацца пра абстаноўку.

Напружанне пануе з гадзіну, затым хлопцы прызвычайваюцца. Супакойваюся і я. Метраў праз восем ад маёй агнявой — маячыць капліца. Адчыняю ў яе дзверы, асвятляю ліхтарыкам.

Памяшканне сухое, абвешана іконамі.

„Адкуль яны тут? — дзіўлюся. — Немцы ж — пратэстанты!“ Клічу хлопцаў. Пачынаем массціцца на начлег. Усе задаволеныя — ах, пашанцавала.

Як мала трэба чалавеку для шчасця!

Толькі ўсе выгодна ўладкаваліся на цвёрдым, але сухім катафаліку, толькі Дубаў і Хілько пачалі смачна храпсці, а ўжо ўлятае пасыльны ад Кучэрына з загадам — здымацца зноў.

І вось узбаламучаныя стралянінай коні пруць нас на ўвесь дых па мокрым асфальце ўжо праз лес, а спакойнае яго дыханне хіліць на сон. К д’яблу гэтую вайну, к д’яблу ўсё на свеце! Невыносна хочацца спаць, спаць, спаць і спаць. З шаснаццатага студзеня, каторая ноч — на нагах і на нагах...

З шашы заварочваем у гушчар. Праскакаўшы метраў з дзвесце па карэннях, мая гармата спыняецца на прасецы. Пяхоту пакінулі чамусьці ззаду нас — чаму так?

Адводзяць коней. Акопваемся.

„Якога д’ябла вынесла нас гэтак далёка ад перадкоў?“ — трывожуся не на жарты.

„Начальства ведае, што робіць. Яно газеты чытае, радыё

аб унуку і аб розным іншым. Старэнькія яны абое — 85 і 80 гадоў. Бабуля хварэе, у шпіталі ляжала ў Гайнаўцы — не хваліць. Але хваліць доктара Грудзінскага з Беластока. Прысела на лавачцы на самым кончыку. Спакойна разважае: „Божа, Божа от каб то ўжо ўмерці“. Адна з нас пярэчыць збітым: „Трэба яшчэ пажыць“. А бабуля паясняе, як бы неразумнаму дзіцяці: „Але ж цяжка хвораму жыць“.

Дзядуля ў сваю чаргу задумоўваецца: „Толькі хата наша. І то толькі пакуль будзем жыць! А сяліба не наша, аддалі за рэнту. Цікава, ці мог бы я цяпер адкупіць ад гміны сваю сялібу?“ На развітанне просяць: „Перадайце Мішу прывет“.

*

У Тыневічах Вялікіх заязджаем да Ніны Сельвеструк, а гэта і хата і гаспадыня, якія не знаюць ніякіх граніц для сваёй гасціннасці. І мы нармальна прымаем гэты дар ад Ніны, бо і парадачна галодныя. „Слоік“, маласольныя агуркі, памідоры, свойскі хлеб — і стол накрыты за дзесяць мінут. Але гаспадыня наша, жыццё якой нялёгкае, бо ўдава, сама гаспадарыць, пра свае справы не гаворыць. Гаворыць пра калектыў тынявіцкі. „Слухайце, — радасна заўважае, — сёння якраз спаўняецца чатыры гады ад нараджэння калектыву ў Тыневічах. Якраз 7 жніўня гэта было. А як было? Пакойны мой Коля з Валяй Франкоўскай дагаварыліся. Яна склікнула цэлы свой род — сясцёр і братавых і ў гэты дзень, у гэтай хаце, вось тут, прынялі пастанову: быць калектыву! Коля ўзяў гармонік і зайграў... А цяпер мы рыхтуем хрысціны калектыву. Як будзе называцца? Яшчэ не ўстаноўлена. Ёсць розныя прапановы. Але спісак запрошаных на хрысціны гасцей у гміне ўжо ляжыць. Выбраны ўжо і хросныя бацькі“.

Яшчэ даведваемся, што найстарэйшы сын Ніны, прыгажун Валік, паступіў у Вайсковую тэхнічную акадэмію (ВАТ) ў Варшаве.

Спяшаемся, бо яшчэ нам і ў Трасцянку трэба. Мы дамоўлены там з Галяй Тапалянскай.

**Вера Леўчук**

Фота Я. Чэрнякевіч



Оля Місеюк на ганку сваёй хаты — помніка прыгожага вясковага беларускага будаўніцтва.



Пашкоўскія з Гародчына — Мішкавы дзед і баба.

слухае і чай п’е, — іранізуе Ісаеў. — Наша справа салдацкая — выконвай загад, і кропка!“

Пра загад ён мае рацыю. Дзе камандзір гарматы? Няўжо Разбек застаўся ў Флатаве?

Пачынае памалу днець. Начная цемра паступова раствараецца, і ўжо бачыш камлі асобных сосен. Мокры, набрынялы дажджом тоўсты слой моху і кастрыцы, як магнітам цягне ныпнуць у пухкую пярыну ды храпануць на ўсю сілу, а там — няхай будзе што сабе хоча, нават — няхай свет валіцца.

Толькі цяпер заўважаю: тамсям валяюцца нямецкія трупы — вынік начнога бою. Вось якую мы чулі страляніну! Мёртвыя, абвешаныя кацялкамі ў суконных футаралах, з поўнымі ранцамі, ляжаць покатам, шырока раскінуўшы рукі-ногі, іншыя — галавой уніз, абхапіўшы рукамі і нагамі зямлю.

Афіцэрская школа са Шнайдэмюля.

Прарваўшыся цераз кола блакады, немцы зрабілі двухсоткіламетровы рэйд на нашых тылах, а тут захацелі прасачыцца да сваіх у крэпасць Кольберг. Натыкнуўшыся на нашыя другія і трэція эшалоны, недавучаныя афіцэры пайшлі ў лабавую атаку ды былі ноччу адкінуты назад. Зараз накапліваліся недзе ў гушчары перад маёй гарматай.

Пяхота як палягла на грэбені шашы, так і ляжала там — чамусьці да нас перакідвацць яе не спяшаюцца. Камандзіра гарматы ўсё няма, даводзіцца выконваць яго абавязкі мне.

Загадваю Дубаву і Хілько — па левы, Ісаеву — па правы бок акапацца ды заняць абарону фронтам у глыбіню лесу. Страляць з гарматы буду адзін. На ўсялякі выпадак ад забітых немцаў звалакаю з добры дзесятак вінтовак, кладу іх каля сябе, як дровы.

Толькі пакончыў з вінтоўкамі, заўважаю — уперадзе падазроны рух. Наводжу панараму і праз павелічальнае шкло выразна бачу — па просецы ў наш бок зусім сабе спакойна тупае пара немчыкаў, і гэтаксама спакойна салдаты размаўляюць з тымі, хто крочыць лесам, але мне іх з-за дрэў не відаць. Загадваю сам сабе з хваляваннем:

„Ну, давай!“

Заганяю ў казённік асколачны, даводжу крыжавіну ў панараме да жывых фігурак, тузаю спуст.

Бу-ум!

Немцаў на просецы — бытта і не было.

Ліха на яго, па роўнай, як страла, просецы відаць далёка, па ёй не падпушчу нікога і блізка, але ж злева і справа — сцяна густога лесу, праз гушчар да нас можна падысці ўпрытык ды пабраць усіх голымі рукамі. Што прыдумаць?

Азіраюся на закапаных па вушы хлопцаў.

Хілько бясклапотна дзеліць на чатыры часткі нямецкія галеты. А Ісаеў спакойна, бытта нічога не здарылася, ломіць на порцыі ды першаму прапануе Дубаву. Здаецца, толькі ў мяне ад хвалявання дробненька выстукваюць зубы, а самы звычайны страх забівае дыханне.

Раптам Хілько ўскоквае на ўвесь рост ды выхоплівае гранату. Хлапец пры гэтым усхвалявана і здзіўлена крычыць:

(Працяг на стар. 8)




(Працяг са стар. 4)

шчодра пасеялі між намі мінулыя часы і эпохі“, і што польскае грамадства сваімі паводзінамі якраз і прадвызначае настроі ды псіхалагічную сітуацыю сярод меншасцей. Алесь Барскі, здаецца, гаворачы пра шанцы, не ўзяў пад увагу цяжкасцей у развіцці нацый. Але ж не хто іншы, а сам Барскі ў „аб невядомых палякам беларусах“ паведамляў чытачоў пра нязлічаныя цяжкасці. Пра цяжкасці, якія даводзіцца пераадольваць беларусам на Беласточчыне, гаворыцца і ў артыкуле „Аб імёнах“ („Ніва“ № 24 з 84 г.). Гэты ж артыкул таксама аўтарства А. Барскага. Зрэшты, пра нашы цяжкасці гаворыцца многа, можна прыгадаць тут і ліст Яновіча, друкаваны ў 23 нумары „Палітыкі“ (8.6.85), змест якога аптымізму чытачам не дадае, толькі бачым у ім рэальныя ўмовы нашага існавання.

У такіх умовах не кожнаму хопіць сілы, каб змагацца з усялякімі перашкодамі, і таму людзі робяцца асцярожнымі, недаверлівымі. Папракаць некаторых беларусаў-настаўнікаў, беларусаў-чыноўнікаў, беларусаў-духоўных, што яны кіруюцца ў жыцці „мізэрнай, — як кажа А. Барскі, — філасофіяй, каб нас не заўважылі, каб чаго дрэннага не падумалі, каб не ўпісалі ў нейкія рэестры“, часам варта. Але ж з асцярожнасцю сустрэўся я і ў серыі артыкулаў „На мяжы“. Напрыклад, калі гаварылася пра „нейкую“ вёску, у якой сяляне асмеліліся „бяспраўна“ павесіць дошку з беларускай назвай (нібыта правы не людзі ўстанаўляюць); калі прыгадваўся пленум, прысвечаны інтэграцыі польскага народа (дзіўная таямніца для „Нівы“, бо ў „Nowych Drogach“ не гаварылася, што пленум мог быць тайным), аўтар абмежаваўся толькі да намёкаў пра факты. Ці ж не з той самай прычыны, што і іншыя беларусы: „Каб чаго дрэннага не падумалі...“?

А дрэнна пра нас думаць ёсць каму, і доказаў на гэта шукаць доўга не трэба. Пісаў у 37 нумары „Нівы“ Байко: пра змест ананімаў, якія прыходзілі ў рэдакцыю „Кур’ера Падляшскага“ за ягоныя рэцэнзіі. Пісаў і Ежы Тамашэўскі, што даводзіцца чуць за прыхільнасць да нацыянальных меншасцей („Polityka“ 15 XII 84, „Polityka“, 8 VI 85). Словам, людзі, якім не па душы наша існаванне, яшчэ не зваліся і маюць, здаецца, немалыя ўплывы, хаця будуем сацыялізм ужо сорак гадоў. Дык боязь, што можа змяніцца „дзяржаўная арыентацыя ў адносінах да нацыянальнасцей, і тады з чалавека зробяць ахвярнага казла“, — як піша А. Барскі, — ці так цалкам беспадстаўная? Не трэба мець „душы мешчаніна“, хопіць прыглядзецца да рэчаіснасці, каб не цешыцца лішняй самаўпэўненасцю. Праўда, жыццё не стаіць на месцы. Перад намі сур’ёзная рэформа. Але можа здарыцца, што, вырашаючы важнейшыя праблемы, могуць

(Працяг на стар. 8)

(Працяг са стар. 5)

# МАЕ ЎРАЖАННІ З МІНСКА

канні ў Беларускім таварыстве дружбы і культурнай сувязі з зарубежнымі краінамі і ў выдавецтве „Мастацкая літаратура". У Таварыстве дружбы нас, як настаўнікаў, прымалі вельмі сардэчна, а ў выдавецтве мы спаткалі земляка з Грэдалёў Серафіма Андраюка. Ён там галоўны рэдактар і надзяліў нас многімі добрымі навейшымі выданнямі. Пасля мы атрымалі яшчэ многа кніг у Педагагічным інстытуце і накупілі ў кнігарнях, так што багажы ў нас былі цяжкія.

Што мы завязлі сваім сябрам у Беларусі? Крыху апошніх экземпляраў „Нівы" і „Беларускі каляндар" на 1985 год. Гэта былі найлепшыя падарункі.

Як мне запамятаўся Мінск? Сталіца будуецца і разбудоўваецца. Амаль кожны пяты жыхар рэспублікі гэта мінчанін. Мінскія ўзгоркі з абодвух бакоў Партызанскага праспекта забудоўваюцца прыгожымі высачэзнымі дамамі з чырвонай цэглы. Гэтыя раёны ўкампанаваны ў зеляніну, што дадае ім прыгажосці.

Рэстаўрыруецца старая частка горада — Троіцкае прадмесце, на якое, на жаль, не хапіла нам часу!

Уражанняў з Мінска я прывезла незлічоную моц. Трэба таксама хоць успомніць пра зусім прыватную пабыўку малой групкай на Маскоўскіх могілках у першую гадавіну смерці Уладзіміра Караткевіча — 25 ліпеня. Мы не маглі не занесці кветак на магілу такога Чалавека! Кветак там нанеслі людзі ў той дзень мноства. Былі сярод іх і каласы з сінімі васількамі, якія хвалявалі нас найбольш.

**Г. Тапалянская**




## ЗАЛАТАЯ РОЗГА

Хоць паводле календара ў нас цяпер толькі другая палавіна лета, але сяляне нашых вёсак маюць на гэта свой погляд:

— Якое там лета, — кажуць, — калі людзі ўжо сеюць азіміну.

І на самай справе, у прыродзе паволі пачынае панаваць асенні настрой. У лесе, напрыклад, усё больш смела паказваецца жоўты колер. Гэтая лясная пазалота таксама мае сваю чароўнасць. Некалькі дзён таму назад, шпацыруючы па лесе каля Целічанкі, напаткаў я паляну, выглядам якой проста захапіўся. Сапраўднае казачнае мора, мора жоўтых хвалюючых кветак. Якая ж незвычайная прыгажосць! У той момант у мяне было толькі адно жаданне — запрасіць у гэтую мясціну ўсіх чытачоў „Нівы" і паказаць ім гэты цуд прыроды. Вядома, гэта нязбыўная мара, але падобную красу з жоўтых кветак можа ўбачыць кожны, хто выбераўца на шпацыр ускраем лесу, пяройдзе лясную дарогу сярод сосан або наведае палянкі сярод змешаных бароў. Усюды там можа расці сумнік звычайны (лацінская назва — Solidago virga aurea, nawłoć pospolita — папольску, золотарник обыкновенный, золотая розга — па-руску. Гэта шматгадовая расліна, сцябло яе да 1 метра вышыні, заканчвае мяцёлкай яскрава-жоўтых кветак. Расце вялікімі грамадамі, недаступнымі іншым раслінам. Батанічная яе назва малавядомая, але не толькі на Беласточчыне. Наогул гэтую расліну людзі завуць „залатой розгай". Цікава, што ў Польшчы гэтая народная назва яе аднолькавая з назвай у рускай мове. Мо гэта старажытная агульнаславянская назва?

Лацінская назва расліны Solidago блізкая такім паняццям як „узмацняць", „лячыць" і паказвае на яе лячэбныя ўласцівасці. У старой рускай кнізе-лячэбніку чытаем: „Залатая розга мае далікатны пах, смак гаркаваты, моц ачышчальную, узмацняльную і зажыўляючую раны. Яе ў адварах або наліўках п'юць ад вялікіх паносаў і кровацячэнняў, ад калоцця ў нырках і ныярачных камянёў, ад унутраных і знешніх ранаў, ад удушша і сухотаў, пасаладзіўшы мёдам. Знешне яе, патоўчаную, на гнойныя раны прыкладваюць і зажыўляюць".

У навуковай медыцыне доўгі час сумнік звычайны лічылі ўстарэлым і маладзейсным зёлкавым лякарствам. Аднак у апошнім часе назіраецца паварот да гэтага лячэбнага сродка. Асабліва яго рэкамендуюць ад працяглых хваробаў нырак і мачавых шляхоў, якія выклікалі бактэрыі, непадатлівыя на антыбіётыкі, або для людзей, якія прачулены на антыбіётыкі. Апрача гэтага зелле сумніку звычайнага ўжываюць пры камянях у нырках і жоўцевым пухіры, мачакіслым дыятэзе (скажа мачановай), а таксама дапаможна пры рэўматызме, катары страўнікавага тракта, нязначных унутраных кровацячэннях. Знешне напаранне з зелля сумніку звычайнага ўжываюць як паласканне пры запаленчых станах поласці рота і горла, а таксама ў кампрэсах на незагойныя раны, болькі на скуры, скулы і г.д.

Самае распаўсюджанае лякарства — напаранне: 15-20 грам сухога сумніку звычайнага на шклянку кіпетню; піць 1-2 шклянкі цёплага напарання ўдзень.

У ветэрынарыі зелле сумніку звычайнага ўжываюць пры паносах і затрыманні мачы.

Сумнік звычайны — меданосная расліна, хоць крыху атрутная для свойскіх жывёлаў: авечак, кароў і коней. Лясныя жывёлы ядуць яго без аніякай шкоды. Варта таксама ведаць, што перад вынаходствам сінтэтычнага каўчуку, праводзіліся даследванні па выкарыстанню гэтай расліны да вытворчасці (у нашых кліматычных умовах) натуральнага каўчуку. Потым гэтыя даследванні пакінулі.

**Б. Паскробка**

(Працяг са стар. 7.




пра нас зноў забыцца, як у мінулым бывала.

А сумненні не толькі ў нас бываюць. Вось вытрымка з тэксту Уладыслава Кота, памешчанага ў „Gazecie Poznańskiej" (22.02.85). У артыкуле „Czy inteligencja jest inteligentna" ён піша:

„Nie pomylę się chyba zbyt mocno gdy powiem, że obecny stan umysłów inteligencji humanistycznej... jest uwarunkowany sporą niejasnością odnośnie celów, ku jakim społeczeństwo nasze — pod przewodnictwem partii — zmierza od czterdziestu lat. Ma tu miejsce swoiste sprzężenie zwrotne: niejasność celów, co kilka lat kwestionowana praktyka budownictwa socjalistycznego, systematycznie „demoluje" uzyskany w humanistyce obraz naszego społeczeństwa; zaś ponawiane co jakiś czas wycofywanie się z „uchwalonych" koncepcji strategicznych rozwoju socjalistycznego, rodzi sceptycyzm i niepewność — rozwija pryncypia ustrojowe".

Гэтыя словы можна аднесці, у нейкай меры, і да праблемы, звязанай з нацыянальнымі меншасцямі. Ці трэба да іх што-небудзь дадаваць?

Шмат прычын накапілася за дзесяцігоддзі, якія людзей змушаюць быць асцярожнымі. Іншая справа ў тым, хто моцны, арганізаваны. А дзе тая арганізаванасць і сіла ў нас? І якое ў нас ёсць права быць сабой? Скажам, права ёсць — яно запісана ў нашай сацыялістычнай Канстытуцыі. Не хапае нам толькі нашых прадстаўнікоў, афіцыяльных, якія сцераглі б непарушнасць нашых правоў перад тымі сіламі, якім у будучыню — сацыялістычную — з намі не па дарозе.

**А. Маўчун**

(Працяг са стар. 7)

# ФРАНТАВЫ ДЗЁННІК

„А во — ён!.. Туды глядзі — во-о!..."

Толькі мяне ўжо не цікавіць гушчар, дзе і так ведаю — падкрадваюцца немцы. З жахам гляджу на спіну хлапца. Шынель мой правільны зняў, капаючы ровік, і цяпер з плячэй яго новай фуфайкі, як коркі, вылятаюць камячкі ваты з ірванай палатнінай, пакідаючы аж надта вядомыя кожнаму франтавіку шырокія дзіркі ў месцах, дзе з цела пуцалаватага салдата вырываліся кулі.

Перада мною стаяў яшчэ жывы сябра, якога грудзі прашыла навылёт кулямётная чарга.

Раптоўная страляніна ўзарвала лес. Калі я павярнуў гармату ўбок, куды толькі што намерваўся мой правільны кінуць „эфку", Хілько мёртвым камячком ляжаў ужо на дне ячэйкі. Але мне не да яго. Між сосен мільгаюць немцы, і па іх страляю. Асколачны снарад, зачапіўшыся за галіну, разрываецца зусім блізка, ледзь не паражае і нас.

Не страляць жа фугаснымі па жывой цэлі! Што рабіць? Нікога і не запытаеш.

Хапаю вінтоўку ды выстрэльваю па немцах усю абойму. Ладаваць магазін няма калі. Першую вінтоўку шпурляю ды хапаю наступную.

„На просецы — „Фердынанд"!" — лямантуе Ісаеў.

Гляджу ўдалячынь.

Сапраўды. З паўкіламетра ад мяне памалу, задраўшы высока хобат гарматы, паўзе ў наш бок самаходка такога ж колеру, што і лес, і абсалютна з ім зліваецца. Адразу забываю пра перабежкі немцаў у гушчар. Хапаю ручкі паварота, ліхаманкава кручу гарматны ствол на галоўную небяспеку.

Першы мой снарад дае толькі ўспышку на брані самаходкі.

Ладую казённік ужо раз за разам. Пасылаю пяць снарадаў, ды ўсе яны выбухаюць таксама на брані і — хоць бы які рэзультат! За гэты час сталёвая аграмадзіна прыкметна прыблізілася і вырасла ў абёме.

Трэба шарахнуць ёй па гусеніцах.

Апускаю ствол ніжэй, старанна даводжу крыжык панарамы, страляю зноў і зноў. За дванаццатым разам гармату нешта заклініла. А самаходка няўмольна да мяне ўсё суне, бытта нічога і не адбылося. Яна ж нас вось-вось раздушыць, што прыдумаць?! Як уратавацца?!

Ужо да „Фердынанда" крокаў за сорак. Перад сталёвай курпасцю мы зусім бездапаможныя — супрацьтанкавых гранат не маем, але нейкая зацятасць не дазваляе мне ўцякаць: тырчу за шчытом сам і не даю каманды хлопцам.

Нарэшце бачу — наводчык самаходкі зрабіў ласку ды мяне заўважыў. Доўгі хобат гарматы з чорным жэрлам ствала з тоўстым надульнікам памалу пачынае рухацца ў мой бок, сваім страшным жэрлам заглядвае мне ў душу, на секунду заміраe, затым плюе агнём.

...Мінула, мабыць, некалькі мінут.

Я кленчу ўсё на тым самым месцы, працірваю кулакамі засыпаныя пяском вочы ад выбуху і дзіўлюся: здаецца жывы?! Няўжо?! Гы!.. А дзе мая гармата? То — была, а то — няма!

Азіраюся ды пазнаю „палкавушку" зводдаль ад сябе. Пагрухатаная, уцісьнутая гусеніцамі ў рыхлы лясны чарназём.

Перад лініяй пяхоты ля грэбеня шашы дыміць усімі шчылінамі „Фердынанд"...

Паволі пачынаю разбірацца, што здарылася.

Я выстраліў шмат снарадаў і пры аддачы сашнік гарматы здорава загнала ў зямлю. Калі ж пад маім ствалом выбухнуў снарад ад „Фердынанда", „палкавушку" на лафеце з укопаным у зямлю сашнікам, як на рычагу, перакуліла ў мяне над галавой назад, мяне нават не крануўшы. Толькі аглушыла на хвіліну. Гарматныя шчыткі засцераглі мяне ад выбуховай хвалі і ад асколкаў.

Ну і пашанцавала!

Толькі цяпер спахопліваюся — чамусьці чужая левая рука. Успамінаю: у разгар страляніны з майго пляча нешта адарвалася, бытта ўспырхнула адтуль птушачка. Прыглядаюся да таго месца.

Пад левым пагонам у шынялі — іраная дзірка. Свабодна ўлазіць кулак. Суну туды пальцы. Яны натыкаюцца на цёплае і жывое мяса, носам чую свежую рану.

**Аляксей Карпюк**

# ЗОРКА
## СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

Здарылася гэта яшчэ тады, калі Валя з мамай і татам жылі ў Старым горадзе.

Званок да іх дзвярэй тата зрабіў новы: націснеш — ён не звоніць, а быццам музыку грае. Вось аднойчы чуе Валя тую музыку, адчыняе, а там стаіць яе сяброўка Зося.

— Хадзі, нешта пакажу! — кліча яна.

Выскачылі на лесвіцу, мігам скаціліся з чацвертага паверха, пранесліся праз вузкі дворык і — за вугал.

— Тут! — шэпча Зося, паўзком прабіраючыся пад кустом бэзу. — Глядзі!

Перад імі жоўтая, як сланечнік, сцяна з вялікай колькасцю акон. Адно з іх зусім блізка, на партэры. Яно раскрыта, а за ім сівая жанчына ў акулярах. Сядзіць ля акна, гартае сшытак і нешта піша ў ім, штосьці крэсліць.

— Настаўніца! — ціха паведамляе сяброўцы Зося. — Сшыткі папраўляе, ацэнкі ставіць.

Сапраўдная жывая настаўніца! Дзеці ў двары ўжо столькі нараскazвалі ёй пра школу, што Валя спіць і бачыць, як сама ідзе вучыцца. Але вось настаўніцу... настаўніцу яна яшчэ не бачыла ні разу.

Вылезла Валя з-пад куста і падышла амаль да самага акна. Ёй ужо добра відаць: настаўніца перакрэсліла нешта, вывела ацэнку і напісала нейкія словы.

А. Зурба

## НАСТАЎНІЦА

— Тройка, — шэптам паведамляе Валя сяброўцы. — Шкада, што не пяцёрка, — сумна гаворыць яна, не зводзячы вачэй з настаўніцы, быццам гэта яе сшытак правяраюць.

Настаўніца ўзнімае вочы, усміхаецца і кажа:

— Гэты хлопчык любіць лічыць варон, мяне не слухае. увесь час у акно глядзіць. І робіць памылкі.

Але ўсё ж Валі шкада хлопчыка.

— Можа, ён зусім невінаваты. Проста за акном вельмі прыгожа.

Тут ужо і Зося вылазіць з-пад бэзу, цягне Валю за рукаў:

— Казала табе — не перашкаджай!

— Нічога, нічога, — усміхаецца настаўніца. — Прыгожа за акном або не, а на ўроках трэба слухаць. А вось гэтай дзяўчынцы паставім пяцёрку.

Настаўніца ставіць „5" і паказвае сшытак дзяўчаткам.

— Пяць! — скача ад радасці Валя.

— Пяць! — скача таксама і яе сяброўка.

Настаўніца складвае сшыткі ў роўны слупочак, здымае акуляры.

— Хочаце ў школу? — пытаецца яна.

— Вельмі хочам. Але мне яшчэ цэлы год чакаць, а Валі два, — захлынаючыся ад хвалявання гаворыць Зося.

— Вы і заўтра будзеце сшыткі правяраць? — пытаецца Валя.

— Буду.

(Працяг на стар. 10)

## ПАПРАЦАВАЛІ Ў БЕЛЬСКУ

*У час летніх канікул на вуліцах Бельска ды і іншых гарадоў Беласточчыны можна было сустрэць вясёлыя групы маладых людзей у каляровых шапачках і кашульках. Яны старанна завіхаліся на гарадскіх кветніках і газонах.*

*З дзяўчаткамі і хлопцамі адной з такіх груп мы пазнаёміліся.*

*Былі гэта вучні 9 класаў дзвюх вясковых школ з ваколіц нямецкага горада Шляйц, што ў ГДР. Яны прыехалі ў Польшчу на гуфец працы ў замен за тое, што моладзь з Польшчы паедзе папрацаваць у Германскую Дэмакратычную Рэспубліку.*

*Дзяўчаткі з ГДР расказвалі нам, што яны прыехалі ў Польшчу на два тыдні, жывуць у адным са школьных інтэрнатаў Бельска і працуюць па ўпарадкаванню гарадскіх кветнікаў. Група іх складаецца з 30 чалавек, у тым ліку 4 настаўнікі. У гэты ж час у Бельску працавала яшчэ адна група моладзі з ГДР. Яны знайшлі занятак у гарадской бібліятэцы і пры пасадцы лесу.*

*Нямецкай моладзі вельмі падабалася Беласточчына. Яны пабывалі на экскурсіі ў Белавежы, наведалі Беласток і некаторыя беластоцкія фабрыкі. А пры ўсім гэтым вельмі хвалілі добрую бельскую кухню — усё было такое смачнае і елі колькі толькі хацелася.*

*Наогул, пабыўка ў Польшчы ім вельмі падабалася, дадому павязуць незабыўныя ўражанні ад сустрэч і цікавых экскурсій.*

*Маем надзею, што і нашым дзецям, якія пабывалі ў ГДР, было цікава і добра адпачываць і працаваць.*

**Яніна Чэрнякевіч**
**Фота аўтара**



Моладзь з ГДР у час працы на пасадках руж уздоўж вуліц Бельска.

Мар'ян Дукса

### РАЗВІТАННЕ З ЛЕТАМ

**Верасень букеты**
**Запрасіў у школу.**
**Дзякуй, дзякуй, лета,**
**За спачын вясёлы.**

**Будуць доўга сніцца**
**Нам сцяжынкі гаю,**
**Пахкія суніцы,**
**Раніца грыбная,**

**Зычны грай птушыны,**
**Песні ў паднябессі.**
**Даспявай, рабіна,**
**Ты без нас у лесе.**

## ЗЛАМАНАЯ БЯРЭЗІНКА

**Пачатак у папярэднім нумары.**

Вось і след нейкі. Здратаваная трава, а на ёй выразна адбіўся ўзор ад гумавых колаў машыны...

Міколка ўжо збіраўся пабегчы ў той бок, куды вялі сляды машыны, ды пачуў з-за дрэў дзедаў голас:

— Чакай мяне там, нікуды не адлучайся!

Хлопчык яшчэ не ведаў, што здарылася ў бярэзніку ў тую раніцу. Але навокал стаяла нейкая незразумелая цішыня. Нават бярозкі і тыя насцярожыліся, спахмурнелі. Маўчалі і птушкі. І толькі недзе зводдаль нібы зачыхаў матор машыны.

„Мусіць, усё ж трэба бегчы па дзеда, — падумалася Міколку. — Як-ні як удвух будзем..." Ён памкнуўся ў той бок, куды кінуўся дзядуля, ды нечакана зноў пачуўся трэск, перарывісты голас старога.

— Не дагнаў! Уцяклі! — відаць, ён бег, бо цяпер пераводзіў дыханне. — Уцяклі, нібы тыя ваўкі. На газіку. Ведаеш, унучак, тут браканьеры былі. І казулю яны забілі. Па слядах відаць — на машыну пагрузілі. Бачыў я іх здалёк, дагнаў бы, можа, ды ногі падвялі, без кійка не слухаюцца мяне.

У Міколкавай памяці зноў усплыло ўчарашняе здарэнне. Чым тут развеяць змрочны настрой?

— Дзеду, дай ножык! — папрасіў хлопчык старога, які цяжка аддыхваўся, абапершыся аб камель старой сасны.

— А нашто ён табе? Яшчэ парэжашся!

— Можа, з гэтай бярозкі новы кій выражам?

Нешта згадваючыся, стары падышоў да паваленага дрэва і стаў яго разглядаць.

— Бач ты, якую прыгожую змарнавалі! — спахмурнеў дзед. І навошта яна ім спатрэбілася? — нібы сам з сабою, разважаў ён. — Што там кій! Давай лепш будзем венікі вязаць з бярозавага голля. Усё роўна дрэва ўжо не адродзіш. О-о! Дык дрэўца не спілавана, а зламана! Мабыць, тым жа брызентавым газікам...

— Бэ-э-э-э! — пачуўся раптам жаласны голас. Міколка азірнуўся: няўжо гэта Зорка адвязалася ад грушы і пабегла за імі ў лес? Але не, ззаду нікога не было.

— Б-э-э-э! — паўтарылася зноў. На гэты раз галасок вы-

(Працяг на стар. 10)

(Працяг са стар. 9)

## ЗЛАМАНАЯ БЯРЭЗІНКА

разна чуўся аднекуль з бярозавага голля.

— Ты чуў? — здзіўлена спытаў дзед.

— Чу-уў! Не іначай, тут нехта хаваецца.

— Тады рассоўвай вецце! — сур'ёзна скамандаваў дзед.

— А, тут малая казулька! — усклікнуў хлопчык, убачыўшы ружовы хрыбецік ды маленькі хвосцік. Малеча заблыталася ў голлі і бездапаможна ўздрыгвала ўсім целам.

— Асцярожна, не паламай ёй ножкі, — праціскаючыся ўслед за ўнукам, папярэдзіў дзядуля. І тут жа асцярожна падхапіў на рукі маленькую казулю: — Занясём яе да нашай Зоркі. Няхай будзе ў яе другая дачка!

— А што, калі казуля вернецца сюды і пачне шукаць малое? — засумняваўся Міколка.

— Не вернецца, — уздыхнуў дзед. — Ужо ніколі не вернецца. Браканьеры за ёю на машыне гналіся. Яны ж і бярозку гэту зламалі. Казулю падстрэлілі і з сабою забралі. А малое недзе ўбаку было. Таму і не прыкмецілі яго злаздюгі.

— Як жа яно апынулася ў галлі? — усё яшчэ не мог зразумець Міколка.

— Я так думаю, што яно ўслед за маці бегла. А на дарозе якраз ляжала зламаная бярозка. Вось і заблыталася тут малеча, ўратавалася ад нягоднікаў... Эх, каб даведацца, хто ў тым зялёным газіку быў!

— Зялёным? — перапытаў Міколка.

І тут у памяці хлопчыка ліхаманкава ўсплыў абшарпаны брызентавы газік, які надоечы спыніўся насупраць іхняга дома. У машыне было двое: адзін, у цёмных акулярах, сядзеў за рулём, а побач з ім нецярпліва азіраўся па баках маладым барадач.

— Гэй, хлопчык! Хочаш пакатацца? — адчыніўшы дзверцы, паклікаў той, што ў акулярах.

— А вы далёка едзеце? — усё яшчэ не верыў Міколка.

— Ды ты не бойся! Мы цябе толькі па вёсцы правязём, — сказаў барадаты і адчыніў перад хлопчыкам заднія дзверкі.

— А я і не баюся! — сказаў Міколка, уладкаваўшыся на заднім сядзенні.

— Ты, пэўна, тут усіх ведаеш? — павярнуўся назад шафёр. — Мусіць, і старога Лісіцу ведаеш?

— Хто ж яго не ведае, браканьера, за вёскай жыве. Дом такі вялізны, з зялёным дахам...

Акуляры бліснулі назад — спалохана і злосна. Міколка адразу асёкся, нібы адчуўшы нешта благое.

— Выпусціце мяне! Не хачу я вашага катання!

— Тады выходзь! — буркнуў шафёр, спыняючы машыну.

Міколка куляй выскачыў на пясок. Ледзь паспеў заўважыць першыя дзве лічбы нумара: 33...

— Малайчына ты, Міколка! — выслухаўшы ўнука, пахваліў дзед. — Па такіх прыкметах мы іх лёгка знойдзем! Тым болей, што без Лісіцы і на гэты раз не абышлося... Ды хопіць пра тых нягоднікаў, — працягваў дзед, пагладжваючы рукою палахлівую казулю. — Давай хутчэй занясём яе дадому, да Зоркі. Прагаладалася, мусіць.

— А як жа венікі?

— Венікі пачакаюць. Заўтра па іх пойдзем. І кій новы зробім, — хітравата глянуў дзед на хлопчыка, які падскакваў з боку, стараючыся пагладзіць малую казулю па спіне. — Разам з табою выражам, раз ужо стары некуды прапаў...

— І на жалейцы іграць навучыш? — зарадаваўся Міколка.

— Ды ўжо ж, навучу. Чаго для адзінага ўнучка не зробіш? — пяшчотна супакоіў стары.

**А. Паскробышаў**

## ВЯСЁЛЫ КУТОЧАК

* * *

— Мама, праўда гэта, ці доктар жартаваў, што ў мяне запаленне сярэдняга вуха! Іх жа ў мяне толькі два! — цікавіцца малы.

* * *

Дачка звяртаецца да бацькі:

— Тата, цётка Наташа казала, што ў мяне твая галава. Дык чыя ў цябе?

* * *

— Чаму ў мяне заўтра дзень нараджэння? — пытаецца пяцігадовы Лёня. — Хіба ж я яшчэ не нарадзіўся?

* * *

— Кім ты будзеш, калі вырасцеш? — запыталіся ў чатырохгадовага хлопчыка.

— Спачатку буду прафесарам, — адказаў хлопчык, — а потым пайду ў школу.

* * *

— Перастань мяне мучыць, — просіць тата малога хлопца. — Увесь час пытаешся і пытаешся, у мяне аж у галаве круціцца ад гэтага. А ты ведаеш, што адзін хлопец з-за сваёй цікавасці нават жыццё страціў?

— А пра што ён пытаўся, тата?

## ПАЗНАЁМІМСЯ

СССР, 197348, г. Ленинград, ул. Аэродромная, 11, кор. 1, кв. 386. Романова Лиза. Дзяўчынка вучыцца ў шостым класе, займаецца музыкай, спявае ў хоры, прыгожа малюе, збірае паштоўкі і калькаманію, хоча пазнаць польскую мову.

* * *

СССР, 34771, Ростовская обл., Азовский район, село Займо-Обрыв, ул. Ленина, 52. Гриценко Лене. 5 клас.

* * *

СССР, 344012, г. Ростов-на-Дону, пр. Буденновский, 108, кв. 26 Колесниковой Лене. 5 клас.

* * *

СССР, 346510, Ростовская обл., г. Шахты, ул. Калинина, 34„А", кв. 40. Минченко Лене. 7 клас.

* * *

СССР, 340036, г. Донецк, ул Пензенская, 1, кв. 3. Гнеушева Света. 4 клас.

* * *

СССР, 353840, г. Славянск-на-Кубани, ул. Батарейная, 348. Игнатенко Тане.

## РОБІМ САМ: ЦАЦКІ

*Пасля летніх канікул і добрага адпачынку час зноў брацца за кніжкі. Давайце навучымся добра абкладваць кніжкі, каб яны да канца года засталіся, як новенькія.*

### *АБКЛАДВАЕМ КНІЖКУ*

*Падрыхтуем для абкладвання ліст паперы, найлепш гладкай каляровай ці белай, абы моцнай. Прамавугольны ліст павінен быць амаль у чатыры разы большы за шырыню кніжкі, і падвойны да вышыні яе (мал. 1). Да сярэдзіны складваем два бакі ліста так, каб шырыня складзенага ліста была роўнай вышыні кніжкі (мал. 2). Па сярэдзіне кладзем кніжку і закладваем бакі ліста на кніжку. Пальцамі загладжваем лінію заламання, дзе канчаецца вокладка кніжкі (мал. 3). Тое самае робім на адваротны бок. Потым вымаем кніжку, а край вокладкі складваем паводле азначаных ліній (мал. 4). Цяпер на вокладку кладзем кніжку і яе вокладкі ўсоўваем у новыя, робленыя вокладкі (мал. 5 і 6). Трэба гэта рабіць вельмі дакладна і старанна. Атрымаем прыгожа абкладзеную кніжку. Можна яшчэ на пярэднюю вокладку наклеіць прамавугольную этыкетку, а на ёй старанна напісаць загаловак кніжкі (мал. 4). Маю надзею, што ва ўсіх вас будуць прыгожа абкладзены кніжкі.*

*У наступны раз навучымся рабіць прыгожыя закладкі для кніжак.*



мал. 1.



мал. 2.



мал. 3. мал. 4.



мал. 5.



мал. 7.



мал. 6.

(Працяг са стар. 9)

### НАСТАЎНІЦА

— А можна, мы зноў прыдзем?

Настаўніца згодна ківае галавой.

Прайшла зіма, надышла вясна. Аднойчы настаўніца вярнулася дадому з вялікім букетам кветак. Паставіла іх у флакон. Адчыніла акно. Твар у яе быў чамусьці сумны.

А дзяўчаткі ўжо тут.

— А я ў верасні таксама пайду ў школу, — не вытрымлівае Зося.

— І я хачу ў школу, — ледзь не плача Валя.

— А мае сшыткі вы таксама будзеце правяраць? — пачырванеўшы, пытаецца Зося.

— Яна напэўна адны пяцёркі будзе атрымліваць, вось пабачыце! — запэўнівае Валя.

— Так, так, — ківае галавою настаўніца. — Але гэта будзе восенню, пасля канікул... — Яна адварочваецца і дзяўчаткам здаецца, што ў вачах у яе слёзы.

* * *

Зося стаіць прыгожая-прыгожая: белая блузка, велізарная белая стужка ў валасах, букет кветак.

— Дай хоць тарністар табе да школы данясу, — просіць Валя. Але сяброўка не дае. Сама.

— Што, вельмі хочацца ў школу? — чуе раптам Валя знаёмы голас настаўніцы.

— Яшчэ як! У мяне і сшыткі ёсць, і ўсё... Прыміце.

— Добра. Прыму. Толькі спачатку адвядзем Зосю. — Настаўніца падае дзяўчынцы руку, і яны ідуць у школу.

У школьным двары першакласнікі пакідаюць татаў і мам. Звініць званок, і дзеці важна, парамі ўваходзяць у школу.

— А цяпер падыдзіце да мяне, дзеці. — Настаўніца абымае Валю і кліча да сябе яшчэ некалькі дзяўчатак і хлопцаў, якія топчуцца па школьным двары. Вочы ў многіх пачырванелі — вось-вось расплачуцца.

Яна прыводзіць іх да сябе ў пакой, садзіць за стол, дае сшыткі, алоўкі і паказвае ім, што трэба пісаць — палачкі, рысачкі, кружочкі. З іх потым будуць літары.

— Гульня ўсё гэта, — шэпча на вуха Валі хлопчык, які сеў побач. — Яна ўжо не настаўніца, яна на пенсіі.

Валя ўзнімае вочы на настаўніцу — сівую, але такую прыгожую і добрую.

Валя, закусіўшы губу, выводзіць у сшытку крэсачкі і палачкі, з якіх павінны выйсці літары.

Потым Валя ўзнімае руку і просіць:

— Пастаўце мне, калі ласка ацэнку!

## А-Д-Г-А-Д-А-Н-К-А



Намалюй гэты ўзор, не адрываючы алоўка ад паперы.



Адрас рэдакцыі: „Зорка", 15-950 Białystok, ul. Wesołowskiego 1.

## БАРАН, АСЁЛ І ЛЕЎ

Павер, чытач, мне: гэта не падман.
Баран,
Сустрэўшыся з Аслом,
Паведаміў яму чарговую прыгоду:
— От, нарабіў гаспадару турботаў. —
Вароты новыя учора выбіў лбом!
Павер,
Цяпер —
На цэлы год яму работы,
Пакуль не зробіць новыя вароты.
Ад гэтага паведамлення
Асёл быў проста ў захапленні:
— Сапраўдны подзвіг ты, Баран, зрабіў,
Які ніхто яшчэ не ацаніў.
І пра цябе — ніколькі не хлушу —
Артыкул у газету напішу.
І слова сапраўды Асёл стрымаў:
Такі артыкул — оду напісаў,
Што неўзабаве
Баран хадзіў у славе. —
Аж да нябёс
Асёл яго узнёс:
Маўляў, у кожнай справе ён невыпадковы,
Надзвычай прабіўны, талковы,
Работнік самы адмысловы,
Трымаць яго патрэбна на прыкмеце...
Леў прачытаў артыкул у газеце
І, не задумваючыся шмат,
Адразу падпісаў загад:
„Узяць у штат..."

**Яўген Крупенька**



— Шкада, што няма пятага кутка!

## НІЎКА

Вялікія за партай



— У цябе, Цэзар, вялікія здольнасці: ты ўхітраешся спісваць з трох сшыткаў адначасова!

### АДРАС ТОЙ САМЫ

Пытае незнаёмец у задрыпанкі:
— Скажыце, калі ласка, дзе ў вас аптэка?
Задрыпанка здзіўлена паглядзела на незнаёмца, сціснула плячыма:
— Там, дзе і была. Дзе ж ёй быць?

### ПАЗНАЦЬ ЛЁГКА

Маленькі сын, убачыўшы на падаконніку двух вераб'ёў, спытаў:
— Татка, хто з гэтых птушак муж, а хто — жонка?
Бацька адказаў:
— А вось паслухай, якая з іх апошняй змоўкне, тая і жонка.

### ПАРАІЎ

— Хачу з табою параіцца, — сказаў Сабака да Бугая. — Ужо трэці дзень прыкмячаю, як наш Кот лазіць у кладоўку. Цягае адтуль каўбасу, сала... Што з імэрабіць?
Бугай маўчыць.
— Даць дыхту, — працягваў Сабака, — скажуць: крыўдзіць слабшага. Паскардзіцца Кладаўшчыку — скажуць: данос. Ну, што тут зробіш? Парай.
Зноў паўза.
— Ці, можа, не ўмешвацца, хай Кладаўшчык сам неловіць варон? Што маўчыш?
— Му-у! — нарэшце адазваўся Бугай.



У людзі выйшаў, але сваім сярод іх і не стаў.

### НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

Пасялілі бабу Фядору ў новую, светлую кватэру, а яна сумуе:
— Няма з кім і пасварыцца. Раней з Гарпінай, бывала, пагамонім, а цяпер...
— А вы, бабуня, пагаманіце з новымі суседзямі.
— Не той смак. Іх багата, а я адна. Усіх не перасварыш. Ды й пералаза тут няма...

*

Муж прыходзіць з працы і бачыць, што яго жонка чытае кнігу.
— Ты не нудзілася?
— Не, дарагі. Я правяла гэтыя гадзіны ў таварыстве Уільяма Шэкспіра.
Глянуўшы на крэсла, муж заўважыў:
— Я бачу, ён забыў тут свой капялюш.

*

Дзяўчына гаворыць варажбітцы:
— Ужо калі вы бачыце ў картах прыгожага і багатага брунета, знайдзіце ў іх заадно і нумар яго тэлефона...

### ДОБРЫ ТАТА

— Міколка, ты чаму спазніўся на ўрок? — пытае настаўніца.
— Ды... я хацеў пайсці на рыбы... А бацька не дазволіў.
— Добры ў цябе бацька! Правільна зрабіў.
— Ён сказаў, што чарвякоў замала і на дваіх не хопіць.

### З „Весніка Задрыпоніі"
### ТАК ТРЫМАЦЬ

Ужо амаль год не паступаюць скаргі на працаўнікоў сталовай № 0,5 г. Жуйска. Спадзяемся, што добрая традыцыя захаваецца і пасля заканчэння зацягнуўшагася рамонту сталовай.

### БОНТОН

Гаварыць тосты з набітым ротам не трэба. Вас могуць няправільна зразумець.



— А ты, Міколка, як я бачу, зноў не ведаеш, што такое зямное прыцягванне!



— Я таксама ў яго ўзросце такім быў...



— Мне, калі ласка, „Асновы філасофіі" і „Чырвоную шапачку".

## Курʼёзы

### ПАРАДАК — ПЕРШ ЗА ЎСЁ!

Тое, што да французскіх беспрацоўных яшчэ чацвёра далучылася, не такая, вядома, падзея, каб на яе асаблівую ўвагу звяртаць. І ўсё-ткі...
Завуць гэтых беспрацоўных Пакерэта, Анемона, Прымавера і Прухнеля. Яны непісьменныя, маюць ад двух да чатырох дзяцей, і да рабочай камісіі прыйшла ад іх няга імя просьба пра грашовую дапамогу.
Гэтыя беспрацоўныя нармандкі — каровы. На думку іх уласніка, у вынікy рашэння аграрнага камітэта Супольнага рынку страцілі свае пасады пастаўшчыц малака і прысуджаны на беспрацоўе. Таму ён патрабуе для іх грашовай дапамогі.
Чыноўнікі камісіі склалі чатыры адпаведныя акты, вынеслі рашэнні, каб каровы рэгулярна з'яўляліся разам з іншымі беспрацоўнымі на рэгістрацыю, і пераслалі справу на зацвярджэнне ў вышэйшую інстанцыю.

### АБ'ЯВА

Аб'ява ў венскім квартале музыкантаў:
„Жадаю зняць аднапакаёвую кватэру з ваннай, да якой не даходзяць гукі піяніна".




Калі вас з кім-небудзь блытаюць, не спяшайце абражацца — можа, гэта камплімент.